# Лісты да Маладога Дзядка.

**Даражэнькі наш Дзядок!**

Я надта рад, што Вы, будучы ўжо, пэўна, не малады, так стараецеся для нас, за што мы Вам ад усяго нашага маладога сэрца дзякуем. Я надта абурыўся, як прыехаў ў Віленскую нашу гімназію, на некаторых вучняў, якія, як прынясьлі да іх „Заранку", пасьмелі нават некалькі кніжак парваць. Пачалі яны гаварыць, што гэта ўсё дзеціннае, што гэта ўсё „пусьцяк". Я надта доўга бараніў „Заранку" і гаварыў ім, што як мы будзем гэтак глядзець на яе, то як жа будуць гадавацца нашы малыя калегі і калежанкі. Гэта-ж адзіная на Заходнюю Беларусь, нашу Бацькаўшчыну, дзяцінная часапіс, і яе трэ' ўсімі сіламі старацца падтрымаць. Але я іх ня мог пярамагчы—адзін.

Дык ганьба вам, браты мае, што вы так глядзіце на нашу „Заранку". Адумайцеся і прымеце гарачы ўдзел у ёй, каб яна нам красавала на ўсю нашу старонку, каб яна весяліла маладыя душачкі.

Вам, даражэнькі Дзядок, вялікае дзякуй за Вашы творы.

Кахаючы Вас, шчыры супрацоўнік „Заранкі",

**Янка Патаповіч.**

**Даражэнькі Малады Дзядок!**

Як прачытаў я „Заранку", дык вельмі яна мяне зацікавіла. Павёс я яе ў польскую школу, дзе вучуся і паказаў яе хлапцом. Яны таксама сказалі, што гэта вельмі цікавая кніжка. Як я сказаў, што хачу яе выпісаць, то адзін хлапец запрапанаваў, каб выпісаць яе ў складчыну. Вось мы злажыліся па 50 гр. і паслалі ў рэдакцыю „Заранкі".

Цяпер „Заранку" атрымоўваем і з ахвотай чытаем.

**Міколай Дылька.**

**Паважаны Малады Дзядок!**

Ужо некалькі разоў я зьбіралася напісаць Вам адказ на Вашыя лісты ў „Заранцы".

Я вельмі ўдзячна Вам за Вашыя добрыя словы за заахвочваньне да працы. Вашыя вершы і апавяданьні мне вельмі падабаюцца, асабліва: „Ніва". Чытаючы яго здаецца, што знаходзішся недзе ў полі, сярод мора шумлівага жыта. Таксама вельмі пекны верш „Байка".

У гэтым вершы я спаткала незразумелае для мяне слова „Настаром", агулам у Вашых вершах і апавяданьнях вельмі шмат новых слоў, якіх я неспатыкала ў іншых кніжках. З апавяданьняў мне спадабалася „На начлезе", а асабліва „Юрачка". Апошняе жыва напомніла мне мае першыя дні ў школе. Пакуль што гэта ўсё, што я хацела б сказаць Вам. Пішэце нам больш цікавых вершаў і апавяданьняў.

З пашанай **„Маруся з Антокалю"**

# НАША ПОШТА.

Дарагія чытачы!

Даўна ўжо „Заранка“ да Вас не заглядвала, ды наканец, моцна занудзіўшыся, сьпяшыць да Вас, Мілыя Дзеткі, нясучы адначасна сьвяточныя прывітаньні і пажаданьні.

Карыстаючыся вольным часам, пішэце ў „Заранку“, ды старайцеся прыдбаць ей больш падпішчыкаў.

**Рэдакцыя.**

**Аксане.** Круцігалоўка добрая, будзе зьмешчана ў наступнай кніжцы.

**„Марусі з Антоколю“.** Апавяданьне будзе зьмешчана, але-ж мусіць пачакаць, бо ёсьць даволі вялікі запас матэрыялу. Аб конкурсе падумаем.

Чаму сама ніколі не зойдзеш у рэдакцыю пагаварыць аб усім, што Цябе цікавіць?

Рэдакцыя адчынена кожны дзень, апроч сьвята, ад г. 3 да 5-ай.

**Еўстафу Ваховічу.** Ліст Твой і грошы атрымалі. „Маладога Дзядка“ ў Вільні няма. Ен жыве далёка ад нас, аж на Паморы. Каляндар можна выпісаць з кнігарні: Вільня, вул. Астрабрамская № 1. Апісаньне вёскі, папраўіўшы крыху, зьмесьцім.

Але-ж вершы нездатныя да друку. Трэба раней шмат чытаць пекных беларускіх вершаў, шмат вучыцца, а тады толькі прабаваць пісаць самому.

**Г. Жукавічанцы.** Твой вершык скарацiўшы, зьмесьцім. Старайся пільна і старанна вучыцца і чытаць беларускія кніжкі, а тады, магчыма, што і зусім добрыя вершы пісаць будзеш. Папрабуй напісаць у „Заранку“ што небудзь аб жыцьці дзяцей у прытулку ня вершам, а так проста, як гаворыш.

**Гальяшу Ануфрыку у в. Данцы.** Вельмі нас цешыць, што „Заранка“ так Табе падабаецца і што сам хочаш працаваць, як кажаш, на карысьць нашай Бацькаўшчыны—Беларусі. Найбольш наша Бацькаўшчына ўсьцешыцца, калі дзеці будуць добра вучыцца і старацца вырасьці на разумных людзей і карысных грамадзян.

Прышлі у „Заранку“ якое апавяданьне, або запішы народную казку, то калі будуць добра і старанна апрацаваныя, зьмесьцім.

А вершы пісаць пакінь.

---

Рэдакцыя „Заранкі“ шчыра дзякуе Алексіцкаму Гуртку Т-ва Бел. Школы за перасланыя на Прэсавы Фонд 5 даляроў. Гэтак сама гарачае дзякуй Р. Р. Клюбу ў Амэрыцы, які гэтыя грошы ахвяраваў.

---

**Рэдактар Выдавец Л. Войцікава. Друк. Я. Левіна, Вільня.**

# ЗАРАНКА

—: Ілюстраваная :—
часапісь для дзяцей.

**Выходзіць кніжкамі адзін раз у месяц.**

**Падпісная цана з перасылкай:**

на 3 месяцы — — — — 1 зл.
на год — — — — — — 4 зл.

Асобны нумар 35 гр.

**Падпіска прымаецца з кожнага месяца.**

**Адрас рэдакцыі і адміністрацыі:**

**Вільня, Віленская вул. 12, кв. 6.**

1927 г.



# Зіма.

Гэй, дзень добры, зіма!
Прывітайся бач з намі:
Усю старонку сьнягамі
Ты праз ноч замяла.

Ціха ўсюды і бела
Гдзе не глянь навакола,
Толькі вецер дадзелы
Зажывае вясёла.

Усюды сёньня дарога
Уецца белай прастораў:
Ад бароў лягла строгіх
І ад вёсак да бору...

Што нясеш ты, зіміца,
З вольнай песьняй мяцелі,
З блескам зор, што іскрыцца
На сьняговай пасьцелі?

З лётам санак чароўным
З сьпеўным звонам званочкаў
З харастком нявымоўным
Маразяных дзянёчкаў.

Люба белым просторам
Пагуляць Калядамі:
Бач Куцьця ужо скора
На куце сядзе з намі,

Ой і будзе-ж нам радасьць
І пацеха бяз канца,
Як хлапцы з Калядою
Прыйдуць к нам пад ваконца.

Н. А.




**Асобы:**

1) **Яначка, гадоў 9** } брат і сястра
2) **Наталка, гадоў 8** }
3) **Бацька** } Яначкі і Наталкі
4) **Маці** }
5) **Юрачка, гадоў 9** } брат і сястра, суседнія дзеці
6) **Параска, гадоў 8** }
7) **Дзед Мароз**

**Красналюдкі** — чацьвёра іх.

**Сьняжынкі** — найменш мусіць быць чатыры, а калі магчыма, то можна й больш.

---

Рэч дзеецца на вёсцы ў конадзень Каляд.

---

## Дзея першая.

Небагатая, але чысьценькая хатка бацькоў Яначкі й Наталкі. На покуці абразы, абвешаныя белымі рушнікамі. Стол, лавы, услончыкі. Два ці тры вакны, дзьверы, печ.

(Шэрая гадзіна).

### Зьява I-я.

Маці, Яначка і Наталка.

(Заслона падымаецца. Маці апранае й зашпільвае кажушок. Наталка канчае замятаць падлогу. Яначка кладзе ў шуфляду ад стала нейкія паперкі).

**Маці**: Ну й маладзец мая Наталка! Гэтак хараша прыбрала ў хаце! Цяпер спакойна можам спатыкаць першую зорку на небе!

**Наталка**. А куды, мамка, гэта наш тата паехаў?

**Маці**: А ён, бач', пана павёз у места!

**Яначка**: А ці-ж пан сам-бы ня трапіў у места?

**Маці**: Дзе-ж ты бачыў, дзетка, каб пан сам у места езьдзіў!

**Наталка**: А ці-ж пан дасьць тату што-небудзь за гэта?

**Маці**: А памятаеце, як пан улетку даў нам на часткі касіць сена на балоце?

**Яначка**: Ну, дык што?

**Маці**: Ну; дык за тую ласку, што даў нам касіць, татка й павёз яго ў места!

**Яначка**: Дык жа-ж ён ня дарма даў нам сена! Нятолькі татка, але й мамка, і я й Наталка рабілі каля сена; і пану дзьве часткі завезьлі, а сабе ўсяго адну!

**Наталка**: Але, мамачка!

**Маці**: Што-ж рабіць, дзеткі, гэткая воля панская!

**Яначка**: Вось дык воля!... Ну, пачакайце-ж, калі-небудзь ня будзе гэтае волі!

**Наталка**: Мамка! А ці татка на вячэру прыедзе?

**Маці**: Павінен прыехаць!... Гэта-ж праўда, амаль ня забылася вам сказаць: цётка Лявоніха дала нам пірага, сырчык і масла! — „Вазьмі! — кажа — галубка! Хоць што-

небудзь сабе на сьвята! Гэта-ж твой Яначка пасьвіў маю кароўку, дык яму належыцца!"

**Наталка:** Добрая гэта цётачка!,.. Мамка! Дык у нас і сырчык і пірог будзе на Коляды?

**Маці:** Але-ж!... Ну, дзеткі, ужо цёмна, запалеце лямпу, ды будзьце ціханька! Я пайду. Ты, Яначка, прынясі жменьку сена, ды палажы на покуці!

**Яначка:** Добра, мамка!

**Наталка:** А ці мамка хутка вернецца?

**Маці:** Чаму?

**Наталка:** Калі-ж бо ня весяла будзе!

**Маці:** Дык мо' сказаць Юрачцы ды Парасцы, каб прыйшлі да вас? Любыя гэта дзеткі!

**Янка й Параска** (разам): Пакліч, мамка, пакліч!

**Янка:** Вельмі-ж прыгожыя казкі ўмее апявядаць Юрачка

**Наталка:** А якія-ж песенькі ўмее пяяць Параска!

**Маці:** Ну, дык добра! Сьпявайце сабе, апавядайце, пакуль я ня прыду. Толькі ня ўсьніце, бо да паўночы ня можна лажыцца спаць. Трэба бадзёрымі спаткаць нарадзіўшагася Хрыста! (Запальвае ліхтар і бярэ яго з сабою): Ну, дык я йду! (Выходзіць).

### Зьява 2.

Янка й Наталка

**Янка:** Наталка! Пабудзеш адна ў хаце? Ня будзеш бяцца, пакуль я прынясу сена з гумна?

**Наталка:** А чаго-ж баяцца? Ніхто-ж мяне ня скрыўдзіць!

**Янка:** Ну, добра! (Выходзіць).

### Зьява 3.

Наталка

**Наталка:** (адна): Гэта-ж яшчэ пытаецца: „ці ня буду баяцца?" — Гэта-ж гэтулькі анёлачкаў зыйходзіць на зямлю ў сяньняшні вечар, каб хваліць маленькага Хрыста! чаго-ж баяцца?..: (Падыходзіць да вакна й глядзіць праз яго, сядаючы на лаўцы): Як-жа-ж прыгожа размаляваў Дзед Мароз

шыбы нашых вокнаў! Во, якія бліскучыя зорачкі! Як яны сьвецяцца! Як золата, срэбра! Вось тутака маленькія, а тут вялікшыя, а тут спляліся шнурочкамі, як пацяркі! Ну, і штукар-жа гэты Мароз! А заляпіў гэтак шыбы, што нават ня відаць, што робіцца на панадворку. (Дзьмухае на шыбу; лёд тае). — Гэта можна зрабіць такім чынам: з-за куліс шыбу з папяроснае паперы нашмараваць маслам ці алеем, вось і будзе празрыстая пляшка. Наталка прыкладае рукі па баках галавы, каб было лепш відаць.): Вух, якая цёмная ночка! Як гэта татка наш прыедзе дамоў? Мамка хаця ўзяла з сабою ліхтар!... — А вунь, вунь, і зорачка заміргала на небе! Якая-ж прыгожая! А бліскае сьветласінім агоньчыкам! Пэўне зараз і Дзіцятка сьвятае прыйдзе да нас на зямлю? ..

### З ь я в а 4.

Н а т а л к а й Я н к а.

**Янка:** (ўваходзіць, нясучы невялічкую жменю сена): Чаго ты так углядаешся, Наталка?

**Наталка:** Глянь, Яначка, ужо зорачка зышла на неба!

**Янка:** (кладзе сена на покуці й прыглядаецца): А й праўда!... Што-ж гэта Юрачкі з Параскаю няма?

**Наталка:** Ціха! здаецца, што нехта йдзе?! (стук удзьверы):

**Янка:** Нехта стукае! Запалі лямпу!

**Голас з-за дзьвярэй:** Чаго замкнуліся? Адчынеце!

**Наталка:** Яны! Юрка й Параска! Адчыняй, Янка! (Становіцца на ўслончык і запальвае лямпу).

**Янка:** Мігам! (Ідзе ў сені й адчыняе дзьверы).

### З ь я в а 5.

Наталка; у кажушках. абсыпаныя сьнегам (з ваты) Юрка й Параска; за імі Янка.

**Параска:** (да Наталкі): Добры вечар. золатка! (цалуюцца).

**Юрка:** Як маешся, Наталачка? (вітаецца).

**Наталка:** Дзякую! Вось добра, што вы прышлі! Скідайце-ж кажушкі!

**Юрка:** Трэба кажухі над печкаю павесіць, каб сьнег абтаяў!

**Янка:** Добра! зараз усё ўпарадкую! (Бярэ кажухі й

вешае на жэрдцы над печкаю): Чаму-ж вы адразу ня прыйшлі?

**Параска:** Бо ня было Юркі ў доме!... Але-ж як вы хораша прыбралі сваю хатку! чысьценка ўсюды!

**Наталка:** А як-жа-ж! Трэба ў чыстаце прыймаць маленькага Хрыста!

**Параска:** Пэўне!

**Юрка:** Ведаеце, даражэнькія, што?... Гэта-ж я ня ўстрымаўся, і бегаў у двор. Ах, каб вы ведалі, як пекна прыбралі панічы ды панянкі ёлачку! Хоць было вельмі мне холадна, але стаяў я ля вакна ды пазіраў:

**Наталка:** Зараз, раскажаш, міленькі, але перад тым сядайце, калі ласка! (Сядаюць ля стала грамадкаю: Янка, Параска, Наталка й Юрка, так, каб усе былі відны глядзельнікам. Усе з цікавасьцю слухаюць).

**Юрка** (гаворыць з запалам): Уся панская заля аж зіхаціць ад тых бліскучых цацак, якія паразьвешалі паны на ёлцы. Там і анёлачкі, і хаткі, і рыбкі і конікі, і шмат іншых гэткіх рэчаў, якіх я навет ніколі ня бачыў і ў сьне! А сьвечачкі, дык, каб вы бачылі: ня толькі белыя, але й ружовыя й сінія й зялёныя!... Ах, Божухна, Бацюхна! Аж вочы мае вылазілі на лоб, — гатак цікава там у іх! А под сподам ёлкі, дык вось штука! Маленькая хатка, быццам сапраўдная: і страха, і комін, і вокны, і сьцены з бярвёнаў жоўтых, і вагончкі бліскаюць у вокнах; і дзьверы!— усё, як мае быць! На страсе-ж, ці паверыце, як на сапраўднай, бліскае сьнег, вось гэткі самы снег, які на нашых хатках цяпер ляжыць, адно, што хоць і ў пакоі, але ня тае. Ля хаткі чорненькі сабачка стаіць!... зірнуў я глыбей пад ёлку, дык угледзіў... Як думаеце што я ўгледзіў?

**Наталка:** Можа ваверку?

**Юрка:** Не!

**Янка:** Ваўка, пэўне!

**Юрка:** Не!

**Параска:** Ну, дык мусіць або зайца, або лісу!

**Юрка:** Эх! Ніхто ня згадаў! дык скажу я вам! Угледзіў я там Дзеда!

**Усе:** (з цікавасьцёй): Што? якога дзеда?

**Юрка:** А такога, што ў кніжках малююць, ды аб якім казкі пішуць, — Дзеда Мароза!

**Усе:** А-а-а!... жывога?

**Юрка:** Ну, гэтага я вам не скажу, бо й сам ня ведаю! Стаіць ён гэта ў вялізнай шапцы, у кажусе, у вайлаках, у рукавіцах; барада й вусы белыя, белыя, як сьнег! За плячыма нясе торбу з цацкамі й ёлачку. Стаіць ён гэта, як жывы, толькі што ня варушыцца.

**Наталка:** Вось цікава!

**Янка:** Што-ж далей?

**Юрка:** Пасьля я бачыў, як прышла ў гэтую залю нейкая паня. Уселася яна на крэсьле, каля нейкага вялізнага чорнага куфра, ды давай пальцамі стукаць на ім. Ажно чую я, дык грае музыка. Панічы і паненкі пачалі сьмяяцца ды скакаць на глянцаванай падлозе. А адзін гэтак даказваў, круціўся, што пасьлізнуўся, ды — бэнц!... паваліўся на падлогу й пачаў плакаць. Усе кінуліся да яго. А мне гэтак сьмешна зрабілася, што ня ўстрымаўся ды засьмяяўся. Усе зірнулі на вокны. Я схаваўся. Ажно калі выйшаў нехта, ды калі пачаў клікаць і цкаваць сабак, дык я ледзь, ледзь, ногі ўнёс да дому!

**Параска:** Во шчасьлівыя паны! Чаму гэта нам нельга мець гэткае прыгожае ёлачкі?

**Наталка:** Бо паны багатыя, а мы бедныя!

**Янка:** Не гаруйце, дзяўчаткі, можа мы таксама некалі будзем мець яшчэ лепшую ёлку. Можа й нам бедным засьвеціць сьветлая зорачка.

**Юрка:** А вы думаеце, што бедныя зусім ня маюць шчасьця?

**Наталка:** А хто яго ведае!

**Юрка:** Калі хочаце, дык я раскажу вам казку аб адным хлопчыку, круглай сіраце, які хацеў пацешыць сваю хворую таварышку ў вялікае сьвята Каляд?

**Усе:** Кажы, Юрачка! Будзем слухаць!

**Янка:** Ты-ж вельмі добра апавядаеш!

**Юрка** (здаволены): Ну, добра! Слухайце!... Жыў на сьвеце невялічкі хлапец, якога клікалі Васільком!...

**Параска:** А гэта аб тым Васільку хочаш казаць, якога зьелі ваўкі?...

**Юрка:** Але-ж не! Зусім аб іншым!

**Параска:** А, ну, дык кажы, братка, кажы!

**Юрка:** Памёрлі Васільковыя бацькі, гэта значыць: тата і мама, і пакінулі Васілька аднаго на ўсенькім сьвеце. Добрыя суседзі пахавалі іх, а малога Васілька ўзялі да сябе. Прыгожы быў гэта хлапчук! Суседзі вельмі любілі яго дык ня дзіва, што ўзялі да сябе. Мелі яны прыгожую дзяўчынку, што звалася Люська. Вельмі-ж палюбіліся гэтыя дзеткі. Усюды былі разам. Аднойчы, гэта была ўзімку, бацькі Люські выйшлі недзе ўходжвацца па гаспадарцы, а Люська прыцікавіла ў вядры з вадою лядзяныя сасулькі, ды як цукерак пачала смактаць іх. Ажно ў вечары пачула холад і лягла ў ложак, — захварэла! Вельмі-ж бацькі трывожыліся, каб ня ўмерла іхняя дачка. Надыйшлі Каляды А дзяўчынка ня ўставала. Васілёк у самы конадзень сьвята, нічога нікому не сказаўшы, пайшоў з сакеркаю ў лес, каб прынясьці Люсьцы ёлачку. Ён думаў, што яна будзе цешыцца й лягчэй ёй будзе, бачучы зялёную ёлачку на Каляды. Меў Васілёк трошкі паперы, дык хацеў тую ёлачку прыбраць паперкамі... Хадзіў, хадзіў гэта Васілёк па лесе, а ніяк ня мог выбраць маленкае ёлачкі. Ажно сьцямнела. Праняла Васілька дрыжака ад страху, угледзіў ён, што заблудзіўся. Раптам бачыць, сунецца да яго...

**Усе** (з жахам): Воўк?!...

**Юрка:** Але-ж не! Чакайце! Сунецца да яго нейкі белы чалавек з даўгою белаю барадою, увесь аблепляны сьнегам і пачаў пытацца грубым голасам: „Хто тут?“ — А гэта я, Васілёк! — з страхам адказваў той. — А вы-ж хто такі, дзядочак даражэнькі? — „Ах. які ты ветлівы! Малайчына! Я — Дзед Мароз, чырвоны нос! Усіх нязетлівых, злых марожу, але цябе ня крану, бо вельмі-ж ты мне спадабаўся! Ну, кажы, па што сюды прыйшоў ты, Васілёк?“ — Той расказаў усю праўду. Дзед Мароз нахваліў Васілька за шчырасьць і добрае сэрца! — „Ну, нічога!“ — сказаў ён — „Будзе табе ёлка, пачакай!“ — кляснуў гэта Дзед Мароз у далоні, аж тут з-пад дрэваў пачалі вылазіць малыя чалавечкі ў чырвоных і зялёных вопратках і ў высокіх шапках з белымі

барадамі. — „Прынясеце сюды ёлачку!“ — сказаў Дзед Мароз, — „а хораша яе ўбярэце! зорак і сьняжынак сыпце пабольш, каб зігацела яна лепш чым у панскіх палацах!“ — Хто-ж гэта? — спытаўся Васілёк. — Гэта мае добрыя служкі-красналюдкі!“—Ураз прымчалі яны ёлачку, а такую прыгожую, што Васільковыя вочы аж сьлеплі ад блеску.— „Цяпер“ — сказаў Мароз — „Запражэце ў санкі пяць пар зайцоў, ды завязеце Васілька дамоў!“ Бягом пайшлі слугі спаўняць загад Мароза. А ён, тымчасам, казаў Васільку: „Калі табе штоколечы будзе патрэбна, дык ты крыкні моцна гэтак:

„Дзед Марозка, прыбяжы,
„Майму гору памажы!
„Што рабіць мне — сам ня знаю,
„Тваёй рады я чакаю!“

Калі крыкнеш ты гэтак, дык я зараз і прыду. Але мусіш ведаць, што ўлада мая толькі ўзімку, а на вясну й лета, ты ўжо мусіш абыходзіцца бяз мяне. Ну, тымчасам, бывай здароў!“ — Бывайце, Дзедка! Бывайце! — крыкнуў Васілёк, але ўжо Мароза ня бачыў, бо ляцеў на прыгожых санках, запрэжаных у пяць пар зайцаў. Вельмі ўсьцешылася Васількова прыяцелька Люська, калі красналюдкі прынясьлі ў хату зьзіяючую ёлку, ды й шмат грошаў і ўсялякага дабра. І ад вялікае радасьці яна адразу паздаравела. Бацькі Люськіны, яшчэ больш пакахалі Васілька, і ўжо ня знталі бяды, бо мелі досыць і грошаў і ўсялякага дабра! Ну, вось і канец! Ну, як, ці падабалася вам мая казка?

**Усе**: Ах, вельмі-ж падабалася!

**Наталка**: Вось, каб здарылася гэтак з намі! Я-б ужо ня ведала, што рабіць ад радасьці!

**Янка**: А добра было-б! Тагды-б і мамка, і татка былі-б рады! Ня трэ'было-б і пана вазіць у места ў той час, калі людзі сьвяткаваць зьбіраюцца! Во, каб гэта татку нашаму грошы трошкі дастаць! зусім інакш пайшло-б нашае жыцьцё!

**Юрка**: А, што-б ты, Янка, тагды рабіў?

**Янка**: Я б накупляў шмат, шмат кніжачак, ды вучыўся-б!

**Наталка:** А я-б на Каляды купіла сабе пригожую сукенку!

**Параска:** Я-б таксама!

**Янка:** Вось радасьці было-б.

**Юрка:** Тагды было-б баляваньне, лепшае чым у паноў А ўсіх-бы мы паклікалі да сябе пагуляці.

**Усе:** Пэўне!

**Юрка:** Ведаеце, што? Каб хутчэй нам ішоў час, дык засьпявайма песянку аб Дзеду Марозе! Параска яе добра ведае, я нягорш! Мо' й выйдзе ў нас сякі-такі квартэт!

**Параска:** Добра, добра!

**Янка:** А хто-ж пачне?

**Наталка:** Хай Параска пачынае! Яна лепшы голас мае!

**Параска:** Ведаеце, што? Распачнём мы ўсе разам!

**Усе:** Разам, дык разам!

**Юрка:** Ну, дык гайда!

(За сьцэнаю, калі ёсьць, дык падчас пяяньня можа падыграваць музыка).

**Усе** (пяюць):

1) З белай зімнае паўночы
Прыкаціў к нам Дзед Мароз,
З тае дальнае старонкі
Дзіваў шмат да нас прывёз.

2) Працаваў Мароз нямала:
Шаць на дрэўцы кінуў ён,
Залатых прыгоршчы зорак
Прыляпіў да шыб вакон.

3) І вісяць яны шнуркамі,
Як брыльлянты зігацяць,
Быццам зорачкі на небе
У нашых вокнах тут бліщчаць!

4) Падышоў мароз да рэчкі:
Уміг спыніла бег рака!
У кайданы з лядоў скавала
Яе Дзедава рука!

5) У люстра рэчкі ледзяное
Глядзіць сонейка з нябёс,
І лятае ў санках сьнежных
Па ім з сьвістам Дзед Мароз!

6) Белай коўдраю пакрыты
Пазірае сонны бор;
Ужо спыніў сваё пяяньне
У ім вясёлы птушак хор.

7) Людзі паляць у хатах печы, —
Усіх пастрашыў Дзед Мароз!
З хаты на'т ніхто ня хоча
Паказаць на двор свой нос!

8) Чэсьць табе, пашана й слава,
Усемагутны Дзед Мароз!
За чароўныя ўсе дзівы,
Што з сабой да нас прынёс

9) Дзед Мароз! на санках сьнежных
Да нас сяньня прыбяжы!
Елку мо' ў сябе ты маеш? —
Калі ласка, пакажы!

10) Прыбяжы ты ў нашу хатку,
На нас бедных паглядзі!
Мы цябе кахаем шчыра!
Дзед-Мароз! Прыдзі! Прыдзі!..

(Стук у дзьверы).

**Усе** (пытаюцца): Хто там?...

**Голас з-за дзьвярэй:** Адчынеце!

**Наталка:** Гэта ня татаў голас!

**Параска:** Нехта незнаёмы!

(Стук у дзьверы).

**Голас з за дзьвярэй:** Што-ж гэта вы сьпярша мяне клікалі, а цяпер маўчыцё й не адчыняеце?...

**Усе:** Хто-ж гэта?... (пераглядаюцца)

(Стук ізноў у дзьверы).

**Наталка:** Янка! Ідзі, адчыні!

**Янка:** Хто яго ведае, хто там? Не' як мне жудасна адному.

**Юрка:** Але-ж мы тутака.

**Янка:** Ну, зараз (Ідзе да дзьвярэй. Усе дзеці таксама пасоўваюцца бліжэй да дзьвярэй. Янка адчыняе дзьверы. Адтуль выходзіць прыбраны ў белую вопратку, з даўгою белай барадою, Дзед Мароз, абсыпаны бліскучым сьнегам і зоркамі).

### Зьява 6-я.

### Тыя-ж і Дзед Мароз.

**Янка** (з жахам кідаецца проч ад дзьверы): Ай-яй!...

**Усе:** Ай!...

**Дзед Мароз:** Чаго-ж вы крычыцё? Сьпярша мяне клікалі, а цяпер дык уцякаеце? Я—Дзед Мароз, чырвоны нос!

**Усе** (з цікавасьцёй): А-а-а?!...

**Дзед Мароз:** Хадзіў гэта я па вашай вёсцы. Усюды ціханька. Ажно чую ў вашай хатцы нехта пяе, ды як раз аба мне. Мне вельмі спадабалася вашая песенька! Ну, я й наслухаў вас, прышоў сюды. Ну, прызнайцеся, — гэта-ж ніхто іншы, але вы пяялі?

**Уся:** Але, гэта мы!

**Дзед Мароз:** Ну, вось гэтак люблю! Ну, а гдзе-ж гэта ваш тата ды мама?

**Янка:** Тата павёз у места пана!

**Наталка:** А мама пайшла недзе.

**Юрка:** А я з Параскаю (паказвае на Параску) ня з гэтае хаты!

**Дзед Мароз:** Ага! разумею!... А хто гэта з вас апавядаў казку аб Васільку-сіраце й аба мне? Ну, сьмела!... Я й казку падслухаў!

**Янка:** Гэта Юрка! Ён дужа добра можа расказваць!

**Дзед Мароз:** Чакайце! Хто з вас ды й як завецца, мушу я ведаць!

**Янка:** Я завуся Янка!

**Наталка:** А я — Наталка!

а: Я — Юрка!

**Параска:** А я — Параска!

**Дзед Мароз:** Цяпер я ўжо ведаю. (Да Юркі): Дык гэта ты так прыгожа апавядаць умееш? Малайчына! Ну, дзеткі,

**за тое, што вы гэткія добрыя й мяне Старога Мароза любіце, я вас пацешу на Каляды! Хочаце мець гэткую ёлку, якую я даў Васільку? Кажэце!**

**Усе** (радасна): Ах, мілы Дзедка! **хочам! хочам!**

**Дзед Мароз:** Ну, добра! зараз! (**Падыходзіць да дзьверы, адчыняе яе й кляскае тры разы ў далоні. Прыбягаюць ў хату чатыры красналюдкі — малыя чалавечкі — у калёрных вопратках, высокіх шапках, з даўгімі белымі вусамі й барадамі. Красналюдкі кланяюцца Дзеду Марозу**).



### Зьява 7-я.

Тыя-ж і красналюдкі:

**Красналюдак** (адзін): Што прыкажаш **нам, магутны** Дзед Мароз? Я з братамі ўраз споўню **твае** жаданьні!

**Дзед Мароз:** Зараз-жа прымчэце сюды ёлку, гэткую прыгожую, як калісь далі Васільку!

**Красналюдак:** Зараз усё будзе ў парадку! За мною браточкі! (Красналюдкі кланяюцца Дзеду Марозу й выбягаюць. Дзеці зьдзіўлена пазіраюць на ўсю гэтую сцэну).

**Юрка:** Дзедка! Гэта твае служкі, красналюдкі?

**Дзед Мароз:** Але, але! **Пабачыце,** якія яны **паслушныя** й верныя мне! (Красналюдкі ўносяць хораша прыбраную ёлку з прылеплянымі да галінак сьвечкамі й стаўляюць на сярэдзіне хаты, бліжэй покуці, каб было больш мейсца для ігральнікаў).

**Красналюдак:** Споўнілі твой **прыказ,** Дзед **Мароз!** Чаго яшчэ жадаеш?

**Дзед Мароз: А цяпер прынясеце сюды гасьцінцаў гэтым добрым дзеткам, а захапеце з сабою й грошаў і ежы, і піцьця, каб тут было ўсяго давол!**

**Красналюдак:** Зараз **усё будзе ў парадку!** (**Кланяюцца й выбягаюць**).

**Параска**: Якая-ж прыгожая ёлачка!

**Юрка**: Сапраўды лепшая, чым у паноў!

**Наталка**: А ўсялякія-ж цацачкі на ёй!

(Стук у дзьверы).

**Янка** (бяжыць адчыняць).

(Уваходзяць чатыры красналюдкі. нясучы вялізны цяжкі мех.

**Дзед Мароз** (сядае на лаўцы ля стала): Сюды нясеце, сюды!

(Красналюдкі стаўляюць мех перад ім).

**Дзед Мароз**: А цяпер зрабеце ў хаце гэтак відна, каб уся зігацела!

**Красналюдкі** (разам: кланяюцца). Зараз усё зробім!

(Запальваюць на ёлцы сьвечкі і, калі ёсьць у запасе, дык лямпы: у гары дзьве каля заслоны, і ўнізу дзьве. А можна й больш, каб было на сцэне як найвідней. Прыбіраюць усю хату, каб аж блішчэла).

**Дзед Мароз** (раздае дзяцём цукеркі, пернікі. Стаўляе на стол булкі, мяшочкі, нібыта з грашыма, скрыначкі): У гэтым мяху шмат чаго яшчэ вы знойдзеце, насьля разгледзіце! А цяпер трэба трошкі пагуляць! Каб Дзіцятка Божае весялілася разам з намі!

**Дзеці** (радасна крычаць, скачучы): Добра Дзедка! Добра!

**Дзед Мароз**: Але, каб было весялей, дык я йшчэ некага хачу паклікаць! Згода?

**Дзеці** (хорам): Ах! пакліч! пакліч!

**Дзед Мароз** (падыходзіць да дзьвярэй, кляскае тры разы ў далоні й кліча):

„Гэй, хутчэй сюды дзяўчынкі,
Зімы—матанькі красулі,
Брыльлянтовыя сьняжынкі.
Што к' нам з неба заглянулі!

Цёмна, страшна ў лесе; у полі
Вые жудасна віхор!
Тут пабавіцесь даволі!
Хай грыміць ваш дзіўны хор!"

(Сьняжынак павінна быць найменш чатыры. Калі пазваляюць варункі, дык лепш, каб іх было больш. Сьняжынкі яшчэ за кулісамі пачынаюць гожа пяяць. Калі ёсьць, па-

дыйгрывае музыка. Усе слухаюць. Пасьля другое звароткі Сьняжынкі ўваходзяць плоймай, трымаючыся за рукі; тварам да глядзельнікаў і канчаюць песьню).

### Зьява 8-я.

Сьняжынкі (пяюць):

„Уймся белым карагодам
З дальніх сініх мы нябёс,
Пагдядзець, як гэтым годам
Людзей усьцешыць усіх Хрыстос!

У небе доўга мы круціліся:
Ветрык песьні нам пяяў,
На зямлю цяпер спусьціліся,
Бо нас Дзед Мароз прызваў!



**Сьняжынкі** (хорам): Добры вечар! Дзед Мароз!

**Дзед Мароз**: Добры вечар, мілыя!

**Адна Сьняжынка**: Гэта ты сюды нас клікаў, Дзедка?

**Дзед Мароз**: Сюды! сюды! Гляньце, якія тут прыгожыя дзеткі. Яны й мяне й вас, Сьняжынак, любяць!

**Сьняжынкі** (падбягаюць да дзяцей): Добры вечар, мілыя дзеткі (вітаюцца).

**Дзеці** (радасна): Добры вечар! Сьняжыначкі!

**Дзед Мароз**: Цяпер я буду падаваць каманду, а вы ўсе рабіце, што вам скажу!

**Усе**: Разам! разам!

(Дзеці ўперамешку з сьняжынкамі й красналюдкамі бяруцца за рукі, і ходзячы навакол ёлкі радасна пяюць з прыскокамі на ноту „Лявоніхі“ песьні. Дзед Мароз сьмяючыся прыклясківае ў далоні. І тут, калі ёсьць, за сцэнай можа падыйграваць музыка, але не заголасна).

**Дзеці** (пяюць):

1) Трэба нам усім ў згодзе жыць, ў згодзе жыць,
І ў няшчасьці ня тужыць, ня тужыць!
Нас пацешыў сяньня Дзедка Мароз,
Ён прыгожую нам ёлку прынёс!

2) Яму слава, яму чэсьць, яму чэсьць!
Хай жыве ён у нас гадоў тысяч шэсьць!
Мы балей цябе йшчэ будзем любіць,
Нам ніколі аб табе не забыць!



3) Адагнаў ты ад нас ў гэтую ноч
Цяжкі смутак, і нуду і жаль проч!
Мы Марозу будзем песьні пяяць,
Дабрадзея яго ўсьцяж ўспамінаць!
4) Поўне цешыцца й маленькі Хрыстос,
Што пацешыў бедных дзетак Мароз!
У Бэтлееме ў жалабочку Ён ляжыць,
Над ягоным домам зарачка блішчыць!

**Дзед Мароз** (пяе):

1) Калі гэтак, дык на будучы год,
Яшчэ лепшы тут заскача карагод!
Будзе ёлка ізноў тут'ка ў вас,
Пагуляемо ў вясёлы ў той час!
2) За вялікую любоў да мяне
Атрымаеце гасьцінцаў ад мяне!
Красналюдкі і сьняжынкі да вас
Прылятуць сюды ў шчаслівы ў той час!

**Красналюдкі** (пяюць): Яшчэ лепшую мы ёлку прынясём!

**Сьняжынкі** (пяюць)! Прыгажэйшую мы песьню запяём!

**Усе** (прыпяваюць): Ля, ля, ля, ля, ля, ля, ля, ля, ля!
(і гэтак далей).

(Падчас пяяньня адчыняюцца дзьверы й ўваходзіць: Маці Янкі й Наталкі з ліхтаром. Бацька іх у кажусе, аблепляным сьнегам, з пугаю ў руцэ й шапкаю (ў сьнягу) на галаве. Яны зьдзіўленымі вачыма, расставіўшы рукі, пазіраюць на вясёлую забаву й, раскрыўшы губы, прамаўляюць):

### З ь я в а 9-я.

Т ы я - ж і б а ц ь к і.

**Бацькі**: А - а - а?!..

(З сяней яшчэ ўглядаюцца цікавыя людзі).

(Дзеці, красналюдкі й сьняжынкі скачуць й пяюць).

З а с л о н а.

УВАГА: Пасьля яшчэ раз можна падняць заслону й паказаць глядзельнікам жывы абраз: Бацькі дзяцей стаяць у той самай паставе; Дзеці. Красналюдкі і Сьняжынкі скачуць й пяюць „ля-ля-ля! і г. д., Мароз здаволены кляскае ў далоні.

З а с л о н а.

## Увагі для ігральнікаў.

### АСОБЫ:

ЯНАЧКА, НАТАЛКА, ЮРАЧКА, ПАРАСКА — Прыгожыя вясковыя дзеці, апраненыя ў чысьценькія „нашываныя“ кашулькі й портачкі, і сукенкі; на нагах хадачкі, ці чаравічкі. Юрачцы і Парасцы патрэбны кажушкі; шапка — Юрку, і хустка — Парасцы.

**МАЦІ** Яначкі й Наталкі—маладая вясковая жанчына, з адбіткай на твары штодзенных клопатаў аб кавалак хлеба. Апранена па сьвяточнаму: у коптку, у даўгую спадніцу; на галаве хустка: на нагах хадакі, Патрэбны ёй кажух.

**БАЦЬКА** Яначкі й Наталкі — таксама нястары чалавек, але на ягоным твару таксама, як і ў маці, пакінулі свае сляды барацьба за кавалак хлеба для ўсяе сям'і. Русыя вусы. У белай кашулі. камізэльцы; у шырокіх нагавіцах і ў лапцёх. Патрэбна яму шапка, кажух і пуга.

**ДЗЕД МАРОЗ** — У белым даўгім кажусе й белай шапцы, — можна сшыць ці з палатна, ці з белае паперы; з белаю барадою; у валлізных вайлаках ці ботах, у рукавіцах; увесь блішчыць ад сьнегу; абсыпаць яго штучным сьнегам з ваты, ці чаго іншага. Гаворыць грубым голасам.

**КРАСНАЛЮДКІ** — Маленькія чалавечкі з даўгімі белымі бародамі й вусамі; апраненыя ў чырвоныя ці зялёныя кашулькі і портачкі й высокія шапкі:

**СЬНЯЖЫНКІ** — дзяўчаткі, апраненыя ў белыя сукенкі, у белых панчошках на нагах; абсыпаныя сьнегам. На галоўках над валоскамі на дроціках прышпілены кавалачкі ваты—сьнег. Дзяўчатак падбіраць з прыгожымі тварыкамі й добрымі галасамі.

### РЭКВІЗЫТ.

Стол, лавы, услончыкі, дровы для печы, ліхтар для маці, лямпа вісячая, абразы з рушнікамі, венік для Наталкі, папера й жменя сена для Янкі, сернікі для Наталкі, вата — імітуецца сьнег на кажушках (калі сьнег, быццам, тае, страхнуць — вата й спадзе], прыбраная хараша ёлка з сьвечкамі, з падстаўкаю, на якой можна ёлку добра ўставіць на падлозе, мех са скрыначкамі й торбачкамі,—напханымі нібыта грашыма, — з цукеркамі, булкамі і іншым—для красналюдкаў, пуга ў рукі Янкаваму бацьку.

Некалькі лямпаў на сцэну, каб было ясна.

Вельмі добра асьветліць можна сцэну там, дзе ёсьць электрычнае асьвятленьне.

* * *

Восень... рада вёска..,
Сабрала з поля працы сеў.
Стаіць абголена палоска.
Скацінка просіцца у хлеў.

У полі, праўда сумна, нудна,
Няма зялёненькіх лугоў...
Затое ў кожнай хатцы людна,
І на стале хапае пірагоў.

Хай-жа галосіць, вые вецер
І плача сьлякаць за вакном.
З „Заранкай“ сядзем ў доўгі вечар
Ля печкі з сьветлым ваганьком.

М. Машара.

Лукішкі.



На гэтым малюнку ёсьць дзьве качачкі й два сабачкі.
Хто з вас, дзеткі, напіша аб іх апавяданьне й прышле да „Заранкі“?



# Калядамі.

У белы кажух апрануты, ў белыя боты абуты, ў белай шапцы, з вялізарнай барадой, так-сама белай, ходзіць сабе Мароз па нашай зямлі і здалёк сьвеціць сваім аграмадным чырвоным носам. Дзеля гэтага і назвалі яго: Мароз-чырвоны-Нос. Ходзіць сабе па палёх і лясох, па вёсках і гарадох і ўсюды по сваему забаўляецца. Ідзе праз поле — як дзьмухне — сьнег пылам падымаецца. Ідзе праз лес — як пачне дубцом па дрэвах біць—дрэвы трашчаць, калыхаюцца...

Ня скончыла бабулька казкі.

З трэскам расчыніліся дзьверы, насамперад уляцеў у хату клубок белага марознага паветра, а за ім, тупаючы нагамі, укаціўся ў кажух акручаны хлопчык.

Шум і крык падняліся ў хаце.

— Мароз! Мароз-чырвоны-Нос! — крычалі дзеці, сьмяючыся.

— Гляньце толькі, які у яго нос, аж пасінеў!

— Хавайцеся, бо нас замарозіць!

Хаваліся, дзе хто змог: пад ложка, пад услончыкі, за скрыню... Вясёлы, зычны сьмех, тупат ног і крыкі ня ўнімаліся.

Увайшоўшы Пранук сам сьмяяўся, але стаяў спакойна пасярод хаты, трымаючы штосьці ў руках.

— Хлопцы, сьціхніце! — крыкнуў урэшце ён. — Паглянце, што я маю!

Ня так лёгка было супакоіць разгуляўшуюся грамадку. Урэшце ўдалося Прануку ўхапіць за рукаў і прытрымаць хатняга хлапца Сальвука. Пацягнуўшы яго да стала, раскрыў асьцярожна прыгаршчы і паказаў пекненькага, рабенькага шчыгліка.

— Шчыглік, шчыглік! — усьцешыўся Сальвук. — Хлопцы, пакіньце дурэць, хадзіце сюды, Пранук шчыгліка прынёс!

Зацікаўленыя хлопчыкі абступілі цесна Пранука і пачалі перакідаць птушку з рук у рукі, ня думаючы аб тым, што бедны шчыглік страшэнна перапалоханы і змучаны ледзь ужо дыхаў.

Няведама, як доўга прышлося-б цярпець птушачцы гэтыя агледзіны, каб у той час не ўвайшоў з бакоўкі старшы брат Сальвука Ёзік, гімназіст шостай клясы, каторы прыехаў да бацькоў на Каляды.

— Што вы там маеце, хлопцы, — зьвяра нейкага злавілі? — сьмяяўся Ёзік.

— Бачыш, падскочыў да яго Сальвук, шчыгліка маем!

— То-ж ён ледзь дыхае!—сказаў Ёзік, бяручы птушку; — эй, хлопцы, як вы маглі так яго замучыць?

А што-ж мы яму рабілі, з крыўдаю ў голасе пачаў Пранук, — толькі паглядзелі, які ён...

— Ці-ж мала вам глядзець, як яны вясёленькія жэўжыкі на двары лётаюць, канешна ў руках мець трэба? Бедная птушачка, амаль ёй сэрцанька не выскачыць!

Шчыглік, быццам разумеючы спагадныя словы Ёзіка, ціханька сядзеў у яго руцэ, круцячы галоўкай і паглядаючы чорнымі, як пацеркі, вочкамі.

— Бачыце, які ён прыгожанькі, — казаў далей Ёзік,— і такі маленькі, а колькі шкодных для расьлін гусьвіцаў, колькі рабакоў ён са сьвету зьвядзе! Гэта адзін з самых лепшых нашых прыяцеляў, бо асабліва любіць жыць у садох і віць гнёзды на грушах.

— А што ён зімою есьць, калі няма ні гусьвіцаў, ні рабакоў — запытаўся маленькі Казюк.

— Зімою цяжка яму жывецца. Часам знойдзе ў полі або на мяжы колькі каліваў асоту, насеньне каторага вельмі любіць, то чартапалоху кусьцік здарыцца, а то разам з верабейчыкамі пад адрынамі і хлявамі зярнят збожжа шукае

А ведаеце, дзеці, у другіх краёх, дзе людзі сьвятлейшыя, там і птушкам ляпей жывецца. Там кожны гаспадар дбае аб сваю прыяцельку-птушку і памагае пракарміцца ў цяжкую для яе зімовую пару. А дзеці лучацца паміж сабою ў „Гурткі прыяцеляў жывёліны“, даюць сабе слова нікэлі ня мучыць ні зьвярыны, ні птушкі, ня выбіраць яечак, не раскідаць гнёздаў, а ў зімку апякуюцца птушкамі і кормяць іх.

— Гэй, хлопчыкі, — аказаўся Сальвук, каторы да гэтай пары слухаў уважна слоў брата, — а каб мы зрабілі гэтакі гурток? Ёсьць нас на нашых хутарох ня шмат, з дзесяцёх будзе, давайце будзем карміць птушак, сьцерагчы і прынаджваць у нашыя садочкі?.,. Вось весяла будзе, як вясною зробяць яны гнёзды каля хатаў і пачнуць шчабятаць свае песьні!... — з агнём у чорных вочках намаўляў Сальвук.

— Добры з цябе хлапчук — сказаў Ёзік, гладзячы галоўку брата.

— Што-ж, згода? — зьвярнуўся ізноў Сальвук да таварышаў.

— Згода, згода! — весела зазьвінелі дзіцячыя галасы.

— А калі маем бараніць птушак ад іх ворагаў, то насамперад трэба выпусьціць на волю нашага маленькага нявольніка — сказаў разважна Казюк.

— І гэта праўда; толькі-ж дайце яму ўперад есьці, каб добра ўспамінаў нашу гасьціну, — параіў Ёзік.— А я, як паеду да места, то прышлю вам цікавую кніжачку: Як апякавацца птушкамі.

З. Верас.

# Дзед Мароз.

Ня вецяр ўсё дуець над борам,
Ня з буры паводка плыве —
Мароз-дзед старэнькі, дазорам
Абходзіць сялібы свае.

На сьнег, на гальлё наступае,
Па лёдзе ён з трэскам ідзе,
А сонейка ясна гуляе
На белай яго барадзе.

Глядзіць ён, ці кудасы густа
Дарогі усе замялі —
Мо мейсца дзе ёсьціка пуста
Бяз сьнегу—шмат голай зямлі?

Залез ён на сосну кудлаву
Дый кіям па дзераве б‘е,
Ды сам аб сабе ён цікаву,
Магутную песьню пяе:

„Спагляньце сюды слабы людзі —
„Вось я ваш дзед, сівы Мароз!
„Дужэй за мяне ці хто будзе?
„Ці хто больш, крапчэй, чым я ўзрос?

„Мне кудасы, сьнег і туманы
Паклоны даюць заўсягды;
„Пайду, як хачу, у акіяны —
„Збудую палацы з вады,

„Задумаю—рэчкі бяз броду
„Скую я на доўга, як сталь,
„Збудую масты я із лёду,
Бо я інжынер і каваль!

„Дзе быстры, глыбокія віры
„Ды з пенай нідаўна цяклі, —
„Там сёньня ў санёх пасажыры,
„А коні цяжар валаклі.

„Багаты я—грошы бяз ліку,
Уселякага поўна дабра,
Я маю сялібу вяліку
З брылянтаў і шмат серабра“.

З расейскага Г. Леўчык



Хацеў ажаніцца бурак з пятрушкай,
Падыбаў да яе простай, дарожкай,
Падыбаў да яе ў нядзелю.
— Справім мы гожа вясельле!
Будуць іграць й скрыпкі, дуды,
Я з табой скакаць буду! —
— Мой бурачок, ты чырвоны!
Хай ужо цяпер грымяць звоны!
Я рада мець мужанёчка,
Што чырвоны і тоўсты, як бочка!

(Па „Пломычку“) —

**Малады Дзядок.**

# Працы нашых чытачоў.

## Лістапад.

Сонца крыецца ў хмарынках.
Хмары дождж халодны льлюць.
Птушкі ў лесе на галінках
Летніх песьняў не пяюць;
Паляцелі ў край далёкі
Ад васеньняе слаты,
Лес астаўся адзінокі,
Вецер рве з яго лісты
І па полі іх разносіць:
Скруціць, кіне, схопіць зноў,
Выя, сьвішча і галосіць
Па завугальлю дамоў.
Усё шэра: поля, межы...
Рэчка здуўшыся цячэ,
А марозік першы, сьвежы
На вакне ўзоры тчэ.
Белы сьнег часамі ўпадзе,
Цераз дзень, цераз другі
Зноў растане і прападзе,
Нарабіўшы калюгі.
Быдла ў поле ўжо ня ходзіць
З дрэва ліст ляціць як град.
Канец восені надходзіць,
Бо ўжо месяц Лістапад.

Сярожа Пастушок.

# Пара галубкоў.

Прайшло ад гэтага часу дзён некалькі, і я праз увесь гэны час усё думаў, як-бы гэта паглядзець галубянятак. У адзін дзень, як меў я трохі вольнага часу, палез паглядзець. Злез я на гару, Акурат у гэны час галубкі ня было ў гнязьдзе і я адважна палез да кошыка з галубеняткамі. Угледзеў я ў ім двое маленькіх галубкоў, каторыя, як пачулі што нехта варушыцца каля іх, падняліся на ногі, павыскаквалі з гнязда і пачалі ўцякаць ад мяне. Былі ўжо яны крыху ў пушку і выглядалі надта сьмешнымі. Адзін з іх ужо цяперака адрожнівуўся сваёю сілаю і ростам ад другога, які быў нейкі слабенькі і ледзь-ледзь трымаўся на сваіх тоненькіх ножках. Здаравейшы мусіць ёсьць голуб, а слабейшы — галубка, надумаў я, і паглядзеўшы крыху, злез назад.

У гэты час зьявіўся і галубок, але не паляцеў проста, як то было ўпярод, пад сваю страху, а сьпярша сеў на суседавай хаце, а па нейкім часе схаваўся на суседаву гару. Суседавыя хлапцы не захацелі, каб ён сядзеў на іх гарэ ўзялі дый пазатыкалі дзіркі ў шчыце *). Прыляцеўшы галубок памацаваў сваім дзюбком адну затычку, пасьля другую і, выбраўшы слабей заткнёную, пачаў яе з размаху выбіваць. За трэцім разам, як разагнаўся, як даў, так і выбіў затычку. Ад гэтага часу ён заўсёды тут начаваў.

Як трохі падрасьлі галубкі, то галубка часьцей пачала пакідаць іх, і лётаць кудысь у поле шукаць сабе чаго-небудзь пажывіцца і галубком прынясьці. Ей у гэтым надта добра памагаў галубок. Малыя растуць вельмі скора, і пачалі ўжо пакрывацца пер'ем, а пры гэтым патрабавалі больш ежы. Каб улягчыць галубцы яе працу, я занёс на гару некалькі жмень грэчкі і аўса, і пасыпаў ім на бляху. Назаўтра брат мне й кажа: — Навошта ты пасыпаў галубком аўса, яны яго не ядуць. О, ім давай грэчкі, гароху, пшаніцы, тагды яны будуць есьці. А я ня ведаў, ці яны ядуць авёс, ці не. Каб пераканацца, я праз два дні пасьля палез паглядзець. Я ўбачыў, што засталося толькі некалькі

*) Шчыт — гэта тая часьць хаты, каторая закрывае страху ад сьцяны, з пераду хаты і с заду.

зярнятак аўса, а рэшту мусіць яны зьелі разам з грэчкаю.

Як галубкі добра пакрыліся пер'ем, то не сядзелася ім у гнязьдзе, а павылазілі на столь і там або сядзелі, або бегалі па гары.

Аднаго разу ўгледзіў я, што слабейшы галубок нешта спусьціў крыльлячка, згорбіўшыся сядзіць і не ўцякае ад мяне. Я глянуў на другога: другі й ростам большы і здаравейшы, а як я хацеў злавіць яго, то ён як скубяне ад мяне так, што таквеля я яго і бачыў. Я дагадаўся, што меншы галубок хворы. Паглядзеў я назаўтра: яшчэ горш галубок захварэў. Нічога ўжо ня будзе з яго—падумаў я, і зьлез з гары, каб сказаць гэну нядобрую навіну свайму брату. На заўтра рана мяне ня было ў дома, а прышоўшы ў поўдзень, пачуў ад брата благую вестку, а якую, то хіба вы ўжо дагадаецеся: галубок быў няжывы. Мне вельмі сумна стала па ім, і ў мяне цэлы дзень штось ляжала на сэрцы. Я рашыў яго ня кідаць куды-небудзь пад плот, каб яго цягалі каты ці сабакі, а выкапаць маленькую магілку, і пахаваць яго.

На заўтра знайшоў я адпаведнае месца на замежку, каля плоту. Выкапаў ямку, на дно палажыў крыху травы, палажыўшы галубка прыкрыў зьверху таксама травою і засыпаў яго.

Па сьмерці галубка я радчэй заглядаў да астаўшагася, бо яму аднаму ўжо хватала ўсяго. Ён надта скора рос, і быў вельмі сыты. Аднаго разу, калі я быў на гары свае хаты, ўчуў што нехта крэхча. Я пачаў прыслухоўвацца і прыглядацца. Угледзяў, як галубка карміла галубка, і гэта мне была вельмі цікава, бо я бачыў гэта кадзе *) першы раз. Галубок разьзявіў сваю дзюбку, а галубка сваю ўсадзіла ў яго, і так рыгае яму ў горла. Я гэта паказаў дзядзьку, каторы мне сказаў, што птушкі амаль ня ўсе гэтак кормяцца. У хуткім часе галубок пачаў вучыцца лётаць, а калі лётаў ужо добра і мог сам сабе здабыць пажыву, галубка пачала нясьці ізноў яечкі, але не на гэтым самым месцы, а на другім канцы хаты. Але вернемся мы ізноў да галубка. Аднаго разу, гэта было на раніцы, мая матка ўстала і пашла даіць каровы. Падаіўшы, яна пачала

*) Кадзе — амаль-што.

будзіць мяне гнаць іх у поле на пашу. Я ўстаў і як, прыбраўся, яна мне і кажа, што маладога галубка нехта мусіць забіў, бо ляжаў на вуліцы на кладцы пад ліпаю. Я спачатку ня верыў, але, як убачыў няжывога, дык ня ведаў што рабіць з жалю. Усе нашы вельмі шкадавалі яго. Дык вось, які лёс спаткаў нашую маладую парку. Я думаў, што як яны, маладыя, вырастуць, то будзе і старым вясялей, і таксама нам, бо будзе ўжо дзьве паркі галубкоў. Ці другая парка маладых галубкоў жыве, я не ведаю, бо, як я пакінуў хату — ужо ёсьць нейкіх два з паловаю месяцы.

Дарагія мае калегі і калежанкі! прачытаўшы маё гэта апавяданьне, папрабуйце і вы апякавацца бедненькімі птушкамі, бо яны прыносяць нам вялікую карысьць. Каб не яны, то нашыя сады і ўсялякую агародніну паелі-б чэрві. Яны бароняць ад усялякіх чарвей і мошак нашае дабро. Не раскідайце іх гнёздаў, як гэта часта робяць пастушкі вясною. Што вам за карысьць, калі вы забярэце ў іх яечкі, і пачнеце імі біцца, або падкідаць у гару. Кіньце гэту паскудную прывычку, і вучэце малых, каб і яны гэтага не рабілі.

Янка Патаповіч.

(Канчатак).

## Мурaвейнік.

Над лесам стаяў высокі ўзгорак. Гэта было старое і надта люднае места мурашак. Былі ў тым месьце даўгія вуліцы, памяшчэньні і выгодныя склады, і ўсё ў парадку і на сваім месцы. Мурашкі-работніцы гаспадарылі: рабілі запасы, будавалі і папраўлялі памяшчэньні, мурашкі-нянькі пільнавалі дзяцей, а мурашкі-жаўнеры сьцераглі муравейнік.

Ціха і шчасьліва ішло жыцьцё ў гэтым мурашчыным месьце.

Аж аднаго разу, нямаведама скуль прыйшоў нейкі страшны, злосны вораг. — Кажуць, што гэта быў хлапец з суседняй вёскі.

Злачынец гэты ўступіў у муравейнік і пачаў яго разгортваць сваімі вагромністымі нагамі. — Якое спустошэньне...

Валіцца памяшчэньне, пясок засыпвае вуліцы; няньві хапаюць дзетак і ўцякаюць з імі ў лес; работніцы бегаюць поўныя перапалоху.

Толькі адважныя жаўнеры не страцілі галавы. На бой! завуць: — на бой! грызьці, адганяць ворага... І бягуць наперад, а за імі ўсе мурашкі сьпяшаюць. Нападаюць на ворага, грызуць яго да крыві, у раны яду напускаюць.

Заенчыў ад болю злачынец. — Бароніцца, атрасае і душыць напасьнікаў. Шмат прапала тады адважных абаронцаў мурашчынага места. Але-ж няпрыяцель астаўся пераможаны, пакінуў муравейнік і ўцёк далёка.

Мурашкі пасьпяшылі вярнуцца да роднага места і якнайхутчэй ўзяцца да працы: адбудаваць памешканьня, ачышчаць вуліцы. Парадак і цішыня вярнуліся ізноў у муравейнік. Работніцы працуюць вясёла і ахвотна, а няньві гадуюць моладзь на карысных працаўнікоў і адважных абаронцаў роднага места.

**Стэфусь Войцік.**

# Як мужык ашукаў чорта.

Паехаў сабе адзін мужык у балота па сена, захапіла яго там ноч, дык пачаў ён сабе вячэру варыць. Накрышыў сала ды скварыць. Аж прылятае да яго чорт ды пытаецца: што ты робіш, чалавеча?—Той. кажа: сквару сала на вячэру. Чорт ізноў пытаецца: то мо' я магу разам з табою скварыць.— Сквар сабе.—Чорт пайшоў, налавіў жабаў, накідаў на патэльню ды кажа: сквар, сквар, але-ж ня разам будзем есьці. Пасьля пытаецца чалавека: А як ты называешся?

„Сам сабе“ называюся, адказвае той, ды не чакаючы, аж чорт яму, што благое зробіць, ухапіў патэльню з гарачым. салам ды як ліне чорту ў вочы, а сам пабег і схаваўся.

Чорт нарабіў крыку, пачаў склікаць чарцей. Тыя пазьляталіся і пытаюцца: чаго крычыш? хто табе вочы выпарыў? „Сам сабе“ кажа, выпарыў.

То ты, кажуць чэрці, сам сябе акалечыў, а нас клічаш каб мы цябе ратавалі. Ня будзь-жа гэтакі неасьцярожны Пакінулі яго, а самі паляцелі куды ім трэба было.

Запісала **Марыя Ласька.**

м. Косава.

# Да асьветы!

Прабудзіся ад сну, ты старонка!
Падымі сваю голаў узвыш!
Загудзі ты цяперака звонка!
Ня так, як заўсёды гудзіш

Устань, ідзі ты, гаротны народзе,
На змаганьне з нядоляй, цямрою!
Прарабі ты сабе шлях к свабодзе;
Хай асьвета кіруе табою.

Яна зьніме з нас моцныя путы,
Будзем вольныя мы наўсягды.
Яна выбавіць нас ад пакуты,
Ад сьлёз горкіх, праступкаў, бяды.

Працярэбіць яна нам дарогу,
Па каторай мы дружна пайдзём.
Пайдзём сьмела па ёй мы ў ногу —
Шчасьце-долю тагды мы найдзём.

Толькі сілай супольнай мы гэта
Усё зможам сабе тут здабыць.
Дык асьвета — адзіная мэта,
Для яе нам усім трэба служыць.

**Янка Патаповіч.**

## Бацькаўская любоў у жывёлаў.

Аднойчы здарыўся ў вёсцы вялікі пажар. Паламё перакідывалася з хаты на хату і хўтка абхапіла страху аднэй хаты, на якой было гняздо бацяна. Хутка прыляцеў стары бацян і хацеў ратаваць сваіх дзяцей, але яны ня ўмелі лётаць; ня мог ён іх і клюнкай выцягнуць, бо былі за цяжкія. Тымчасам паламё блізілася ўсё бліжэй і бліжэй і пачало ўжо ахопліваць гняздо. Тады спусьціўся стары бацян ў гняздо да дзяцей, атуліў іх скрыльлямі і разам з імі згарэў.

**„Маруся з Антопалю“.**

# КУТОК СЬМЕХУ

## „Пяць-адняць два, ёсьць пяць!"

**Вучыцель:** Луцэсь! Калі я табе дам 5 яблык, а ты з гэтых аблык дасі два Пятрашу, то сколькі ў цябе застанецца?

**Луцэсь:** Пяць, пане вучыцелю!

**Вучыцель:** Як-жа гэта?

**Луцэсь:** А, ну гэтак: калі пан вучыцель сапраўды дасьць мне пяць яблык, дык я Пятрашу аніводнага ня дам Усе сябе пакіну!

## „Злавіўся".

Юзіку не хацелася йсьці да школы. Тэлефануе сам да свайго настаўніка й насьлядуючы грубы голас, кажа:

— Пане настаўнік! Юзік ня можа сяньня прыйсьці ў школу, бо хворы.

— А хто ля тэлефону? — пытае вучыцель.

— Гэта мой тата! — адказвае Юзік.

## „Спрытная".

— Ці укінула ты ліст да скрынкі? — пытае маці дачушку.

— Але, мамачка!

— А чаму-ж прыносіш назад мне грошы, якія дала я табе на паштовую марку?

— Бо я ўкінула ліст у скрынку так, што ніхто ня бачыў.

## „Аптэкар".

Вучыцель (пытаецца дзяцей):

— Кім быў сьвяты Пётра?

Дзеці маўчаць.

Вучыцель (падказвае): Сьвяты Пётра быў ап...

Вучань: Аптэкаром! пане вучыцелю!

## „Зямная куля“.

Да кнігарні ўваходзіць хораша апранены чалавек і пытае кнігара:

— Ці магу я у вас купіць для свайго сынка зямную кулю?

— Ах, глобус! — здагадаўся ўсьміхнуўшыся кнігар.—

— А якой вялічыні?

— Можа быць натуральнае вялічыні! Аб цану мне не разходзіцца! — сказаў „хораша“ апранены чалавек.

# Загадкі і круцігалоўкі



## Задача.

Нарысаваная збоку хатка зложана з дзесяці сернікаў, шчыток мае з левага боку. Зьмяніць два сернікі гэтак, каб хатка зьмяніла сваё палажэньне, пераносячы шчыток на правы бок.

## Загадка.

Прыехала пані ў белым жупане. Усе паненкі паскідалі сукенкі, а тры не.

---

## Рассыпанка.

З ніжэй пададзеных складоў злажыць народную прыказку.

Ле-ў-хто-буд-а-там-дзе-той-ні-мо-ляць-бу-і-сьвя-ў-зі-гу-ты-ваць-тан-ня-ца-дзе-бу-ю.

Што найшыбчэй на сьвеце бяжыць?

---

# Разгадкі загадак з кніжкі 7.

## Круцігалоўка з крыжыкаў.

1) жаБры
2) зарАнка
3) арГос
4) дуДар
5) барАбан — Багдановіч
6) каНва
7) прОза
8) дВа
9) мІт
10) маЧар

## Круцігалоўка.

| | | | |
|---|---|---|---|
| с | е | н | а |

---

## Загадкі.

1) Раўнавагу.
2) Калі страха цэлая, то пакрываць яе няма патрэбы.

---

Чаму ніхто не прысылае разгадак?

